# Литва не знает, кому продать излишки зерна...
# Беларусь не знает, как накормить скот, который дохнет от голода.
# Задумаемся, белорусы...

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас


# Народная Воля

**№ 221 (803)**

Аўторак, 30 лістапада 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 25000 руб.,
па падпісцы — 18000 руб.,
у індывідуальных гандляроў — свабодны.




**Канфлікт**

## Як хацеў, ды не здолеў ажаніцца з акадэмічнай сацыялогіяй адзін наменклатуршчык

Надзвычайная падзея адбылася 24 лістапада ў Нацыянальнай акадэміі навук. Выхаванец і "верны Руслан" прэзідэнцкай "вертыкалі" дамагаўся шлюбу з акадэмічнай установай і, як кажуць, атрымаў ад варот паварот. Здаецца, такога яшчэ не здаралася за ўсю гісторыю беларускай навукі. Чалавеку, што прыйшоў "адтуль" (з лукашэнкаўскай адміністрацыі) быццам бы на ўмацаванне акадэмічнай бюракратыі, навукоўцы выказалі недавер. Гэта значыць, палічылі немагчымым працаваць пад кіраўніцтвам асобы, каторая прайшла адпаведную школу кіравання ў "Чырвоным доме", што па вуліцы Карла Маркса.

Але аб усім па парадку. Гэта гісторыя пачалася у Інстытуце сацыялогіі яшчэ вясной мінулага года. Пасля таго, як сышоў на пенсію былы дырэктар Бабосаў, паўстала пытанне аб ягоным пераймальніку. Тады прэзідэнт Акадэміі навук сп. Вайтовіч сустрэўся з калектывам Інстытута, каб параіцца. У выніку бакі пагадзіліся з тым, што прымальным рашэннем пытання аб кіраўніку ўстановы будзе прызначэнне на пасаду В.В.Бушчыка, які да гэтага паспяхова працаваў намеснікам дырэктара Інстытута. Чалавек разважлівы, гаспадарскі, з базавай сацыялагічнай адукацыяй, ён някепска разумее спецыфіку працы ў сацыялагічным "цэху" і ўжо зарэкамендаваў сябе як здольны вучоны і арганізатар.

Але ў яго была адна "загана": ён не паспеў абараніць доктарскую дысертацыю. Таму і калектыў, і сп. Вайтовіч сышліся на тым, што сп. Бушчык пакуль папрацуе ў якасці выконваючага абавязкі дырэктара. А калі абароніць доктарскую, тады, паабяцаў кіраўнік Акадэміі навук, будуць праведзены выбары дырэктара Інстытута згодна з акадэмічным статутам. Такім чынам, сп. Бушчыку быў дадзены шанец, і супрацоўнікі Інстытута расцанілі гэта рашэнне свайго прэзідэнта як мудры падыход да справы.

Да апошняга часу падзеі сапраўды развіваліся ў межах дамоўленасці. Малады навуковец, выконваючы абавязкі дырэктара Інстытута, старанна кіраваў дзейнасцю навуковай установы. Падрыхтаваў да абароны доктарскую дысертацыю. Кіраўніцтва Акадэміі навук прэтэнзій да яго не выказвала.

Але нечакана для ўсіх грымнуў гром. У першай палове кастрычніка сп. Вайтовіч запрасіў сп. Бушчыка да сябе і паведаміў, што пасаду прыйдзецца саступіць іншаму. Маўляў, існуе ці то вуснае распараджэнне, ці то настойлівая просьба "зверху" ўладкаваць на працу аднаго каштоўнага "кадра". Гэты кадр — не хто іншы, як намеснік начальніка інфармацыйна-аналітычнага упраўленння Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі сп. Данілаў. Выбары будуць аб'яўлены "пад яго", таму — каб ніхто з Інстытута не надумаў падаваць на конкурс! І кропка.

Хто ж так радыкальна паўплываў на прэзідэнта Акадэміі навук, што ён палічыў магчымым перагледзець сваю ранейшую пазіцыю адносна кандыдата на пасаду кіраўніка Інстытута сацыялогіі?

Хадзілі чуткі, што сп. Вайтовічу патэлефанаваў кіраўнік лукашэнкаўскай адміністрацыі. Ён прапанаваў прэзідэнту Акадэміі навук зрабіць сп. Данілава дырэктарам Інстытута сацыялогіі і Вайтовіч узяў, як кажуць, пад казырок. Але гэта наўрад ці так. Дакладна вядома, што Аляксандр Рыгоравіч не аднойчы выказваў незадаволенасць тым, як выкладаюцца грамадска-палітычныя пытанні ў ягоных пісьмовых прамовах. А сп. Данілаў якраз адказваў за гэту работу. Падчас апошняй сустрэчы з навукоўцамі ў Акадэміі навук Лукашэнка нават прылюдна паскардзіўся: маўляў, памочнікі падрыхтавалі дрэнны тэкст, які чытаць ніяк нельга, таму ён вымушаны прамаўляць ад сябе.

Адным словам, яшчэ ўлетку кіраўніцтва лукашэнкаўскай адміністрацыі папярэдзіла сп. Данілава аб тым, што не мае намеру падоўжваць з ім кантракт. А за недагадзіўшага "раба" наўрад ці стаў бы хадайнічаць сам Мясніковіч.

*(Працяг на 2-й стар.)*

## Вызвалены ад займаемай пасады дырэктар Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі акадэмік Міхаіл Касцюк

Як стала вядома БелаПАН, М.Касцюк, які 10 гадоў кіраваў Інстытутам, не згадзіўся з такім рашэннем прэзідыума НАНБ, ініцыіраваным прэзідэнтам акадэміі Аляксандрам Вайтовічам, і, верагодна, будзе аспрэчваць яго ў судзе, паколькі лічыць, што пры ягоным звальненні парушана заканадаўства аб працы і статут НАНБ.

Нягледзячы на тое, што М.Касцюк адмовіўся падпісаць якія б там ні было дакументы, звязаныя з ягоным звальненнем, калектыву Інстытута прадстаўлены новы дырэктар — доктар гістарычных навук, прафесар Мікалай Сташкевіч, які раней загадваў аддзелам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, а апошнім часам працаваў у Беларускім дзяржаўным універсітэце. Асноўнай тэмай навуковых даследаванняў прафесара М.Сташкевіча з'яўляецца гісторыя непралетарскіх партый Беларусі.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

## У пункце пропуску "Каменны Лог"...

Памежнікі Смаргонскага пагранічнага атрада ў пункце пропуску "Каменны Лог" на беларуска-літоўскай мяжы пры афармленні рэйсавага аўтобуса "Вільнюс—Ашмяны" знайшлі 83 шкуркі норкі. Пра гэта паведамілі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі.

Гаспадара кантрабанднага груза, як звычайна ў такіх выпадках, выявіць не ўдалося. Шкуркі перададзеныя ў мытныя органы і, паводле папярэдняй ацэнкі, іх кошт складае каля 415 мільёнаў рублёў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Узнаўляецца дзейнасць сталічнага Бацькоўскага камітэта

У Таварыстве беларускай мовы імя Францішка Скарыны створана ініцыятыўная група па ўзнаўленні дзейнасці Бацькоўскага камітэта г.Мінска. Мэтай камітэта з'яўляецца абарона канстытуцыйных правоў грамадзян Беларусі на атрыманне адукацыі і дашкольнага выхавання па-беларуску.

Бацькоў і ўсіх зацікаўленных просім звяртацца ў сядзібу ТБМ: **220005, г.Мінск, вул. Румянцава, 13,** тэлефанаваць па тэл. **284-85-11,** або праз **e-mail: tbm@tbm.lingvo.minsk.by**

**SOS!**

## Памерла 916 чалавек, нарадзілася — толькі 430

Выклікае занепакоенасць дэмаграфічная сітуацыя, што склалася на Піншчыне і ў суседніх раёнах.

Так, па звестках гарадскога аддзела загс, за 9 месяцаў гэтага года ў Пінскім раёне, насельніцтва якога складае 60 тысяч чалавек, было зарэгістравана 916 смярцей і толькі 430 нараджэнняў. У кастрычніку сітуацыя яшчэ больш пагоршылася: на свет з'явілася 36 немаўлятак, а памерла 96 чалавек.

У суседнім Драгічынскім раёне за 10 месяцаў бягучага года нарадзілася 489 чалавек, а памерла 716, прычым 102 нябожчыкі былі ў працаздольным узросце. А ў 56 вёсках Драгічыншчыны сёлета нараджэнняў не зарэгістравана зусім...

**Аляксей ДЗІКАВІЦКІ.**

**Протест!**

*Александр ПОТУПА*

## "Невменяемость-99"

*Опубликован Декрет "О некоторых мерах по возмещению ущерба, причиненного государству". Согласно этому в некотором роде фантастическому документу имущество физических лиц, причинивших ущерб государству, имущество учрежденных оными физлицами юридических лиц, а заодно и тех юридических лиц, которые учреждены подлежащими экспроприации юридическими лицами, передается в собственность Республики Беларусь просто "по решению Президента Республики Беларусь". Причем не только собственность, находящаяся во владении, но также и в хозяйственном ведении, и в оперативном управлении. Оказывается, президент, который, кстати, на сегодняшний день не обладает легитимными полномочиями, может не только самолично отобрать имущество, но определить того, кто будет в дальнейшем управлять отобранным. Вообще-то, согласно п. 1.2 Декрета, управлять отобранным должно Министерство по управлению государственным имуществом и приватизацией, но с хорошей оговоркой — "если иное не установлено Президентом Республики Беларусь". А иное — что угодно.*

*Наряду с этим ошарашивающим соблюдением прав собственности в Декрете имеет место проявление высокой гуманности. А именно, согласно пп. 1.3 и 1.4, не отбирается то имущество, "которое не подлежит конфискации по приговору суда", а также всякая дешевка стоимостью менее 90 минимальных заработных плат. Опять же имущество (или хотя бы его денежный эквивалент) нетрудно возвратить. Для этого достаточно полностью возместить "ущерб, причиненный государству" либо добиться решения суда, где признается невиновность соответствующего лица в причинении ущерба государству. И все описанное принято не просто так, а, разумеется, в сугубо державных интересах — "в целях обеспечения возмещения ущерба, причиненного государству".*

Перечитав раз пять этот зрелый плод отечественной юридической мысли и приняв что-нибудь антиинфарктное, понимаешь: **вот оно — приехали!** Какой, собственно, ущерб имели в виду наши маленькие гиганты большой юриспруденции? Связанный с хозяйственной или какой угодно деятельностью? Материальный или моральный? И главное — кто собирается этот ущерб определять?

Суд? Но в таком случае, при чем тут новый Декрет — и без него существуют процессуальные нормы по возмещению различных видов ущерба. Но, как формально было до сих пор, — только добровольно или по решению суда. Теперь же, как говорится, никто не связан лишними процедурами.

По Декрету определяющей инстанцией становится один человек, который может пользоваться результатами какого-то следствия или обычной проверки, но отчитываться в связи с этим ни перед кем не обязан. Он просто принимает решение об изъятии имущества в пользу государства, и точка. Пострадавший может, конечно, обратиться в суд — вдруг последний признает его невиновным в нанесении ущерба государству. Но наши суды достигли такого уровня независимости, что их позиция будет наверняка совпадать с решением "всенародно избранного".

Таким образом, наконец-то осуществилась многолетняя светлая большевистская мечта белорусской номенклатуры — **фактически полностью ликвидирован принцип ограниченной ответственности.** Физическое лицо, признанное (понятно, кем?) виновным в нанесении ущерба, лишается своего частного и личного имущества в любом желательном (понятно, кому?) объеме. Более того, имущества лишается любой собственник, имевший неосторожность, скажем, сдать что-нибудь в аренду (или передать в пользование по доверенности) упомянутому физическому лицу. Но это еще не все — собственности может лишиться любое предприятие, где означенное несчастное физическое лицо имело неосторожность прямо или косвенно стать учредителем. По-моему, новый **Декрет осуществляет и самую высокую большевистскую мечту, делая бессмысленным понятие любой собственности, еще не попавшей под нежную лапу Управления делами президента.** И в этом смысле **мы, кажется, близки к полной победе над экономикой одной отдельно взятой личности в одной отдельно (от всего остального мира) взятой стране.**

Но что забавно, мы вплотную приблизились и к аналогичной победе над политикой. Любое выступление оппозиционера на митинге или в печати может быть расценено как нанесение ущерба государству. Даже если об его оппозиционерскую голову не обломали дорогостоящий государственный инвентарь, именуемый в народе демократизатором. А какие-нибудь визиты по стамбулам-вашингтонам-брюсселям-страсбургам или задушевные беседы с представителями международных организаций по поводу прав человека или экономического положения страны — это ж вообще крупномасштабный саботаж. Не ущерб — настоящее вредительство. Которое можно оценить в миллионы (а при желании и в миллиарды!) долларов. И вот тогда заживем! И как раз благодаря гениальному Декрету № 40 от 23.11.1999. Может, с некоторыми поправками, чтоб без всякой там деликатности насчет физико-юридических лиц. Надо проще и простонародней — вредители и враги народа. Десять лет без права переписки по Интернету с полной конфискацией всего, на что начальство изволят-с глаз положить.

**Вечная память белорусскому предпринимательству! Вечная слава всенародно избранным вождям и их верным юристам, ухитрившимся за исторически ничтожный срок довести отечественную правовую систему до уровня дебилизации известного отделения психиатрической клиники!** И, простите за невольную рифму, на достигнутом уровне дебилизации окончательно вывалиться (к сожалению, вместе со страной) из мировой цивилизации. До такой степени, что, похоже, даже вечно похотливый Кремль брать замуж не желает. А богатенький зарубежный инвестор даже разово пользовать брезгует.

**Впрочем, боюсь, при таком направлении верховной мысли в ближайшем будущем любой сумасшедший дом покажется средоточением здравомыслия и реального прогресса на фоне нашей центральноевропейской АнтиЕвропы. Пока еще упивающейся счастьем полета в своем ускоряющемся катастрофическом падении.**

**Ну и ну!**

## Как заочно судили профессора Юрия Ходыко

В августе с.г. профессор-физик Юрий Ходыко обнаружил, что его и так уж невысокая академическая зарплата вдруг резко уменьшилась. В бухгалтерии разъяснили, что произвели вычеты в соответствии с исполнительным листом, поступившим из суда Советского района г.Минска. Ознакомившись с сим документом, Юрий Викторович выяснил, что 31 мая 1999 года судья Л.Савостьян за участие в несанкционированном шествии 2 апреля с.г. наложила на него штраф в сумме 150 миллионов рублей.

Профессор удивился и обратился за разъяснением в городской суд. Там данное постановление отменили, потому как заочное рассмотрение политических дел (статья 167[1] КоАП) пока еще не узаконено, и направили на повторное рассмотрение все в тот же Советский суд. Провести процесс было поручено судье Инне Шейко.

В ходе судебного исследования выяснилось, что в день "правонарушения" в институте, где работает Юрий Ходыко, был культпоход в театр. Именно туда профессор и следовал вместе со своими коллегами. Как говорится, 100-процентное алиби. Но у столичной милиции, похоже, совершенно иное мировосприятие. Стоит только кому-либо из известных оппозиционеров появиться на людях, как на них составляется протокол об участии в несанкционированных пикетах, митингах, шествиях...

Белорусские "нячэсныя" политики к такому обращению за пять лет "первопрезидентства" привыкли, но вот заочное осуждение? Это что — новый поворот во внутренней политике?

23 ноября 1999 года судья И.Шейко профессора оправдала за... недоказанностью правонарушения. Справедливость, похоже, восторжествовала. Только вот получается, что Юрия Викторовича как бы простили, поскольку не смогли доказать его вину. А ведь профессор не виноват и полным торжеством справедливости стала бы запись в постановлении судьи: "Отсутствие состава правонарушения".

Интересно, а инфляционную компенсацию при возвращении профессору штрафов начислят из бюджета института или из зарплаты судьи Л.Савостьян?

**Валерий ЩУКИН, правозащитник.**



## Список торговых точек "Белсоюзпечати",

### принимающих подписку на "Народную волю" в г.Минске со скидкой при льготной и обычной подписке — на 30 процентов, при ведомственной — на 20 процентов.

| | |
|---|---|
| **Октябрьский район** | |
| Октябрьский пункт подписки | ул.Жуковского, 5/1 |
| Магазин №1 | ул.Жуковского, 5 |
| Магазин №12 | ул.Кижеватова, 80 |
| Киоск №228 | Университет культуры, ул.Рабкоровская, 17 |
| Киоск №245 | Больница скорой помощи, ул.Кижеватова, 56 |
| **Партизанский район** | |
| Партизанский пункт подписки | ул.О.Кошевого, 8 |
| Магазин №6 | ул.Филимонова, 1 |
| Магазин №18 | ст.метро "Площадь Победы" |
| Киоск №2 | Лингвистический университет, ул.Захарова, 21 |
| **Первомайский район** | |
| Первомайский пункт подписки | пр.Ф.Скорины, 113 |
| Магазин №3 | пр.Ф.Скорины, 76 |
| Магазин №13 | ул.Калиновского, 82/2 |
| Магазин №23 | ул.Славинского, 39 |
| **Московский район** | |
| Фрунзенский пункт подписки | ул.Романовская Слобода, 9 |
| Магазин №20 | ул.Есенина, 16 |
| Киоск №34 | г-ца "Минск", пр.Ф.Скорины, 11 |
| Киоск №37 | Дом правительства, ул.Советская, 11 |
| Киоск №38 | Педагогический университет, ул.Советская, 18 |
| Киоск №40 | Мингорисполком, пр.Ф.Скорины, 8 |
| Киоск №95 | Комитет архитектуры и гражданского строительства, ул.Мясникова, 39 |
| Киоск №243 | Совмин, ул.Советская, 9 |
| Киоск №302 | 9-я больница |
| **Фрунзенский район** | |
| Центральный пункт подписки | пр.Машерова, 51/1 |
| Магазин №11 | пр.Пушкина, 77 |
| Магазин №15 | ул.Танковая, 16 |
| Магазин №19 | пр.Машерова, 51/1 |
| Магазин №21 | ст.метро "Пушкинская" |
| Киоск №232 | МЗХ, пр.Машерова |
| Киоск №262 | г-ца "Планета", пр.Машерова, 31 |
| Киоск №298 | пр.Машерова, 75/1 |
| **Ленинский район** | |
| Участок подписки "Белсоюзпачати" | ул.Володарского, 16, к.302 |
| Магазин №4 | ул.Ленина, 15 |
| Магазин №9 | пр.Рокоссовского, 140 |
| Магазин №14 | ул.Володарского, 22 |
| Магазин №25 | ул.К.Маркса, 21 |
| Киоск №16 | г-ца "Свислочь", ул.Кирова, 13 |
| Киоск №18 | Технологический университет, ул.Свердлова, 13/4 |
| **Советский район** | |
| Магазин №2 | пр.Ф.Скорины, 44 |
| Магазин №7 | ул.Я.Коласа, 69 |
| Магазин №8 | ул.Сурганова, 40 |
| Магазин №16 | ул.В.Хоружей, 24 |
| Магазин №17 | ул.Некрасова, 35 |
| Киоск №136 | ст.метро "пл.Я.Коласа", выход к ин-ту Физкультуры |
| **Центральный район** | |
| Магазин №10 | ул.Осипенко, 2 |
| Киоск №78 | г-ца "Юбилейная", пр.Машерова, 19 |
| Киоск №88 | Миноблисполком, ул.Энгельса, 4 |
| Киоск №187 | г-ца "Беларусь", ул.Сторожевская, 15 |
| **Заводской район** | |
| Магазин №24 | ул.Жилуновича, 31 |
| Киоск №198 | Экономический университет |
| Киоск №209 | проходная МАЗа, ул.Социалистическая, 2 |

**P.S.** *Получать газету Вы можете в указанном Вами в подписном абонементе киоске "Белсоюзпечати".*

*Да 15 снежня можна аформіць падпіску на I паўгоддзе 2000 года*

# НА ТВАЮ ЛЮБІМУЮ ГАЗЕТУ!

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ**

*У аддзяленнях сувязі:*

**63429** (ільготны) для пенсіянераў, інвалідаў, уладальнікаў паўгадовай або квартальнай падпіскі - **600.000** (на месяц)
**63222** (індывідуальны) - **750.000** (на месяц)
**63225** (ведамасны) - **1.200.000** (на месяц)

*У гандлёвых кропках "Белсаюздруку" г. Мінска да запатрабавання, без дастаўкі*

**63429** (ільготны) для пенсіянераў, інвалідаў, уладальнікаў паўгадовай або квартальнай падпіскі - **450.000** (на месяц)
**63222** (індывідуальны) - **550.000** (на месяц)
**63225** (ведамасны) - **1.000.000** (на месяц)

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на газету** Народная Воля

(індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

на 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)

Каму
(прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету** Народная Воля

ПВ | месца | літар

(індэкс выдання)

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | |

на 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)

Каму
(прозвішча, ініцыялы)

Народная Воля 30 ЛІСТАПАДА 1999 г.

Из первых уст

*Анатолий МОРДАШОВ:*

# “Наш народ достоин лучшей жизни”

*На вопросы нашего корреспондента отвечает сопредседатель инициативной группы “Выбор-99” Анатолий Мордашов*

**— Анатолий Андреевич, Вы прошли путь от рабочего до президента крупнейшего концерна, Вас знают в Беларуси и за ее пределами как хозяйственного руководителя, экономиста. И вдруг Вы решили заняться политикой?**

— Ничего неожиданного не произошло. Во-первых, политикой мне доводилось заниматься, не только будучи депутатом Верховного Совета 12-го созыва. Во-вторых, политическая и экономическая ситуация в стране не позволяет стоять в стороне. Народ бедствует, нынешняя власть, на мой взгляд, не видит выхода из глубочайшего экономического и политического кризиса. Естественно, что у каждого гражданина возникает чувство глубокой горечи за сегодняшний день. Я здесь родился, здесь мои корни, здесь живут мои друзья и родные. Закономерно, что хочется применить опыт, знания и энергию на благо Родины. Звучит, возможно, высокопарно, но искренне. В трудный момент совесть не позволяет отсиживаться, быть равнодушным.

**— Кого представляет Ваша инициативная группа? Это нечто новое на политической арене Беларуси?**

— Наши взгляды разделяет значительная часть населения. Группа создавалась еще при участии Геннадия Дмитриевича Карпенко. Мы стремимся к тому, чтобы в стране правили не отдельные личности, а Закон, чтобы белорусский народ жил по настоящей Конституции. Словом, мы за установление подлинного народовластия, демократии.

**— Звучит весомо, но несколько неопределенно. Вы берете линию конфронтации с нынешним режимом?**

— Нет, мы себя оппозиционерами не считаем. Мы — центристы. Давайте вообще разберемся, можно ли говорить о существовании оппозиции в Беларуси? Ведь оппозиция существует там, где есть законно избранная власть. А если власть нелегитимная?! Тогда возникает политическое соперничество. У нас именно такое положение и возникло. Люди, выполняющие властные функции, непримиримы к любому другому мнению, очевидно из-за от боязни потерять власть. Даже за стол переговоров не хотят садиться с политическими противниками...

**— Расскажите, пожалуйста, об основной цели группы.**

— Наша основная цель вытекает из основного кризиса в стране. Прежде всего необходимо восстановить главенство Закона. Недопустимо, чтобы мы, будучи европейским государством, имея богатейшую историю, обладая высочайшим интеллектуальным потенциалом, всякий раз перекраивали Конституцию под очередного начальника: то под Кебича, то под Лукашенко... Причем каждый стремится заполучить “царские” полномочия. Получили, а дальше? Народу от этого становится только хуже.

Эта позорная, оскорбительная ситуация не должна продолжаться. Как жить рабочим, интеллигенции, крестьянам? Пенсионерам? Молодому поколению? Чтобы найти ответ на эти сверхзлободневные вопросы, мы ведем сбор подписей граждан Республики Беларусь для внесения изменений в Конституцию Республики Беларусь, касающихся президентского правления.

**— Нельзя ли конкретнее? Чем Вашу группу не устраивает президентское правление?**

— Под давлением власти в Конституцию внесена путаница, возможность двойного и тройного толкования. Например. Статья 81 гласит, что “президент избирается на 5 лет...”. Лукашенко же продлевает собственные полномочия до семи лет. Чувствуете разницу? В той же 81-й статье говорится, что “одно и то же лицо может быть президентом не более двух сроков”, т.е. 10 лет — и точка. А наш Александр Григорьевич грозится править нами почему-то то 14 лет, то 12. А как же быть с Конституцией, которую должны уважать все?

Налицо политический беспредел. И это еще мягко сказано. Пользуясь правом сильного, Лукашенко все время меняет правила игры. Такое в демократическом обществе недопустимо. Возможно, кому-то захочется стать пожизненным президентом или передать полномочия сыну вопреки Конституции?

Итак, наша задача добиться того, чтобы парламент так отредактировал статью 144, чтобы никто не мог уподобиться Лукашенко, чтобы никого не вводили в соблазн слова “...срок его полномочий исчисляется со дня вступления в силу настоящей Конституции”. Это статья разового пользования, что в принципе недопустимо в конституционном законодательстве. Ведь если президентом станет другое лицо, то какой смысл в этой статье? Она юридически ничтожна, лишена правовой нагрузки. И народ должен руководствоваться статьей 81, где записано, что “президент избирается на пять лет...”.

**— Вы считаете, что подлинного уважения в нашей стране к Конституции — Основному Закону — нет?**

— Не нужно иметь высшего образования, чтобы понять такую простую истину. Лукашенко и его окружение использовали статью о сроке полномочий для усиления собственных позиций, фактически для узурпации власти. Он сам себя назначил и.о. президента, опираясь на подчиненные ему силовые структуры, на многочисленный аппарат.

Но Бог не в силе, а в правде.

**— Как же Вы собираетесь достичь поставленной цели?**

— Мы хотим восстановить для белорусского народа право избирать президента каждые пять лет, которое было нарушено референдумом. Мы продолжаем собирать подписи граждан (есть уже около 70 тысяч) о необходимости назначения выборов не позднее 1999 года. Мы действует в соответствии со статьей 138 Конституции Республики Беларусь.

Собранные подписные листы мы планируем передать на рассмотрение парламента. Законодатели, если в стране действует Конституция, должны вынести окончательный вердикт о необходимости строгого соблюдения конституционных требований в части президентских полномочий.

Хотя доказывать господину Лукашенко, что срок его полномочий истек, представляется неуместным. Это очевидно и с юридической точки зрения, и с политической.

Но мы решили использовать последний шанс, который дает нам Конституция, чтобы не ввергнуть страну в пучину нестабильности и хаоса.

**— Вы хотите отстранить Лукашенко от власти?**

— Вопрос поставлен некорректно. Мы хотим восстановить конституционную законность. Лукашенко избирали сроком на пять лет, демократично, по Закону. Окончание срока полномочий также должно происходить по Закону.

И все-таки наши действия направлены не на отстранение Лукашенко от власти, а на то, чтобы выборы, именно выборы, а не референдумы проходили каждые пять лет. Чтобы ни у кого не возникал соблазн подгонять статьи Конституции под собственные прихоти.

А господин Лукашенко может использовать свое право соревноваться за возможность повторного избрания. Пусть парламент назначит дату, а он при желании выставит свою кандидатуру, наравне с прочими.

Сегодняшнее положение создает необходимость поиска политического выхода. Незаконность пребывания Лукашенко в должности президента недавно подтвердил специальной резолюцией и Европарламент.

**— Вы считаете, что Ваши действия законны?**

— Да. Конституция предусматривает (статья 138) такую процедуру.

**— Вы рассказали о своем видении возвращения Беларуси в правовое поле. А как Вы собираетесь сделать жизнь народа веселее?**

— Сделать ее “веселее” уже трудно. Практически ни одно предвыборное обещание не выполнено. Нет ни кисельных берегов, ни молочных рек. В магазинах появляется лишь подобие молока, сметаны, творога. Правда, было обещано все отобрать у богатых и раздать бедным. Действительно, предприниматели были названы “вшивыми блохами”, экономических активных людей вывели, запугали, разорили, но народ от этих карательных акций лучше жить не стал. Наоборот, народ вконец обнищал. Белорусы стали вымирать как нация. Бедность стала обычным явлением. Промышленность не развивается, сельское хозяйство разорено. Беларусь находится в состоянии международной изоляции из-за скандальности режима, царящего в нашей стране. У нас стали пропадать люди.

Лукашенко и его ближайшее окружение затеяли в стране, я бы сказал, “пир во время чумы”.

**— Картина действительно невеселая. Что Вы намерены делать для улучшения жизни?**

— Мы хотим, чтобы белорусы жили достойно, в достатке и процветании. Мы хотим видеть на лицах людей счастливые улыбки. Мы хотим, чтобы они были уверены в завтрашнем дне и спокойны за будущее своих детей. Вернув Республику Беларусь в правовое поле, мы восстановим доверие к государственным институтам власти. Это возможно при условии, что правительство будет выполнять свои функции: во-первых, гарантировать каждому гражданину личную физическую безопасность, возможность раскрыть свой потенциал, во-вторых, обеспечить достойный уровень благосостояния.

Но самое главное, мы должны остановить экономический распад государства. Восстановить уважение в обществе к честному и профессиональному труду — главному источнику жизни и процветания. Мы собираемся серьезно реформировать отношения собственности на средства производства и землю. Единственное, против чего мы будем бороться, — это обнищание граждан.

При этом упор будет делаться на экономически активных людей. Пусть богатеет как можно больше людей. Мы поменяем правила экономической игры. Мы выведем из подполья, вернем из-за границы всех, кто может и хочет вложить капитал в развитие Беларуси.

Государственный сектор у нас мощный, правда, за последнее время он ослаб, но его можно восстановить. Для этого нужны инвестиции как западных, так и других государств. К сожалению, нынешний режим больше ссорился и конфликтовал с другими странами, чем налаживал нормальные отношения. Этот стиль ведет в никуда, поэтому придется немало поработать, прежде чем страна завоюет утраченный авторитет.

**— Каковы ближайшие планы движения “Выбор-99”?**

— В ближайшее время будет проведено учредительное собрание (съезд).

**— Будете участвовать в последующих выборах?**

— Да. У нас есть достойные кандидаты и в парламент, и на пост президента.

Но сначала нужно вернуть народу Беларуси право самому избирать себе власть.

Мы не ждем помощи от властей, но хотим, чтобы народу не мешали осуществлять свое конституционное право. Тем более что препятствование является уголовным преступлением.

Мы хотим жить в мире и согласии со всеми.



**Мордашов Анатолий Андреевич**

**Родился в 1938 году в деревне Заборье Краснопольского района Могилевской области. Белорус. Трудовую биографию начал рабочим. Был директором ряда промышленных предприятий. Работал первым заместителем председателя Витебского облисполкома, занимал ответственную должность в ЦК КПБ. Возглавлял Комитет по нефти и химии Республики Беларусь, а позже — концерн “Белнефтехимпром”.**

**Избирался депутатом Верховного Совета 12-го созыва.**

Жизнь как она есть

## В центре Витебска нет газа и света

Я живу в Витебске в двухэтажном шестнадцатиквартирном доме. С одной стороны дома, в трех метрах, находится железнодорожный вокзал, с другой — самый большой в городе “Полоцкий” рынок. Кто знает город, догадается, что живу я не на окраине.

Дом был построен в 1953 году. Жильцам до сих пор привозят в баллонах газ, а в каждой квартире стоит котел на твердом топливе, так как к центральному отоплению дом не подключен. Нет в доме и горячей воды.

Уже больше месяца моя семья, как и многие наши соседи, живет без газа. 19 октября я подала заявку на газовый баллон. Мне ответили, что привезут 22 ноября. Но в указанный срок его не привезли.

Из “Витебскоблгаза” за подписью начальника данной организации я получила письменный ответ, где сообщалось о том, что в настоящий момент создана льготная очередь на газ. В этот список входят и многоэтажные дома. Но наш дом в “Витебскоблгазе” многоэтажным не считают, и некоторым соседям заявку на газ обещали выполнить только через три месяца. А начальник абонентского отдела на мою жалобу в телефонном разговоре сказал буквально следующее: “Пользуйтесь электроплитами”. Но старая электропроводка не выдерживает большой нагрузки. Поэтому, особенно в зимнее время, у нас часто пропадает свет.

Из положенных пяти газовых баллонов на год, наша семья за текущий год использовала только два. Третий баллон ждем второй месяц.

Часто смотрю репортажи о беженцах из Чечни и вижу, что у нас с ними много общего: нет газа, горячей воды, тепла. Но у них — война, они — беженцы. А у нас — что? И мы — кто?!

**И.ГРОМОВА.**

**Витебск.**

## З будынка Расійскага консульства ў Брэсце былі выдвараны людзі, што спрабавалі ўручыць консулу зварот, у якім выказваецца пратэст супраць аб’яднання Беларусі і Расіі

“Хваля пратэсту будзе расці з кожным днём, з кожнай новай акцыяй: свечы, пакінутыя на снезе, будуць гарэць як сімвал нашай Веры і Свабоды, свечы на падаконніках і вокнах брэстаўчан — гэта знакі нашай салідарнасці і нашага пратэсту дзеянням Расіі, — гаворыцца ў дакуменце. — Патрабуем ад расійскага кіраўніцтва спыніць палітычныя спекуляцыі, мэта якіх — адцягнуць увагу расіян ад вайны на Каўказе і ўнутраных сацыяльных праблем”.

Акрамя таго, у консульстве лідэры грамадскіх арганізацый горада Ірына Лаўроўская, Генадзь Самойленка, Яўген Беласін мелі намер пакінуць заяву, прынятую 130-ю ўдзельнікамі Асамблеі грамадскіх арганізацый Брэсцкай вобласці, у якой таксама выказваецца пратэст у сувязі з “чарговай спробай знішчыць Беларусь”. Са слоў Ірыны Лаўроўскай, адзін з работнікаў консульства растлумачыў, што тут будуць размаўляць толькі з “нармальнымі людзьмі” і выклікаў міліцыянера. Не згадзіўся сустрэцца з брэстаўчанамі і консул Расійскай Федэрацыі ў Брэсце Барыс Радзімаў.

Як стала вядома карэспандэнту БелаПАН, прадстаўнікі грамадскасці маюць намер прадпрыняць яшчэ адну спробу “пазнаёміць” расіян з меркаваннем брэстаўчан, якія пратэстуюць супраць аб’яднання.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## 6 снежня ў Беларусі на чвэрць павялічваецца стаўка акцызу на алкагольную прадукцыю

Згодна з пастановай Савета міністраў, акцыз павышаецца на 25 працэнтаў — з 3,2 да 4 еўра за 1 літр бязводнага (стопрацэнтнага) этылавага спірту, які ўтрымліваецца ў гатовай прадукцыі, на “алкагольную прадукцыю (за выключэннем лікёра-гарэлачных вырабаў з аб’ёмнай доляй этылавага спірту да 28 працэнтаў уключна; каньякоў, брэндзі, кальвадоса; він, напояў вінных з аб’ёмнай доляй этылавага спірту да 20 працэнтаў уключна, напояў вінных з выкарыстаннем канцэнтраваных харчовых асноў і натуральнай сыравіны, а таксама слабаалкагольных напояў з аб’ёмнай доляй этылавага спірту да 7 працэнтаў уключна); растворы, якія ўтрымліваюць спірт, за выключэннем раствораў з дэнатураванымі дабаўкамі, лекавых, лячэбна-прафілактычных і дыягнастычных сродкаў, парфумерна-касметычнай прадукцыі, зарэгістраваных ва ўстаноўленым парадку”.

На думку вытворцаў айчыннай лікёра-гарэлачнай прадукцыі, павышэнне акцызаў пацягне за сабой рост кошту выпускаемых імі вырабаў. Нагадаем, што 40-працэнтае павелічэнне акцызу (з 2,3 да 3,2 еўра за літр стопрацэнтнага этылавага спірту) у канцы верасня гэтага года літаральна праз некалькі дзён прывяло да 20-працэнтнага падаражання гарэлкі ў розьнічным гандлі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

Не на таго натрапілі

## Алег Волчак ведае, як абараняць свой гонар

Спынена крымінальная справа ў дачыненні да кіраўніка грамадскай арганізацыі “Прававая дапамога насельніцтву” Алега Волчака, якая расследавалася пракуратурай Маскоўскага раёна Мінска.

А.Волчак абвінавачваўся ў злосным хуліганстве — артыкул 201, частка 2 Крымінальнага кодэкса — за тое, што быццам бы 21 ліпеня, пасля мітынгу, прысвечанага заканчэнню 5-гадовага тэрміну прэзідэнцтва А.Лукашэнкі, учыніў нападзенне на супрацоўнікаў міліцыі.

Аднак, паводле слоў праваабаронцы, падзеі адбываліся супрацьлеглым чынам: пасля мітынгу міліцыянты яго затрымалі, даставілі ў УУС Маскоўскага раёна і збілі так жорстка, што проста з міліцыі яго даставілі ў бальніцу работнікі “хуткай дапамогі”. А.Волчак — вопытны юрыст і былы следчы — напісаў скаргу на дзеянні міліцыі ў пракуратуру і зняў пабоі, аднак крымінальная справа была ўзбуджана супраць... яго самога. За 4 месяцы следства з Волчакам не было праведзена ніякіх следчых дзеянняў і вочных ставак. Зараз, пасля заканчэння крымінальнай справы ў дачыненні праваабаронцы, спынена і праверка яго скаргі на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі. З такім становішчам спраў Алег Волчак не збіраецца мірыцца і хоча абскардзіць дзеянні супрацоўнікаў міліцыі ў вышэйшых інстанцыях — аж да рэспубліканскай пракуратуры і міжнародных арганізацый.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

Накат

## Таццяну Процька “папрасілі” з арэндуемага памяшкання

Днямі старшыне Беларускага Хельсінкскага камітэта (БХК) Таццяне Процька было паведамлена аб тым, што праз месяц арганізацыя, якую яна ўзначальвае, павінна будзе пакінуць арэндуемае памяшканне па адрасе: вуліца Карла Лібкнехта, дом 68. Пра гэта ёй заявілі чыноўнікі Галоўнага ўпраўлення адміністрацыйных будынкаў Упраўлення справамі прэзідэнта, куды яна была адмыслова выклікана. Нягледзячы на тое, што арэнда памяшкання праплачана БХК да 31 снежня, пра нейкія кампенсацыі з боку Галоўнага ўпраўлення размова не ідзе.

Гэтае распараджэнне чыноўнікі матывавалі тым, што ў дзяржаўным будынку павінны знаходзіцца толькі дзяржаўныя структуры. Паводле слоў прадстаўнікоў БХК, у гэтым жа будынку памяшканні арандуе мноства іншых недзяржаўных структур, аднак “выганяюць не ўсіх”.

“Гэта мэтанакіраваная акцыя для істотнага абмежавання дзейнасці БХК”, — лічыць Т.Процька. У ліку магчымых прычын высялення арганізацыі яна назвала сваю паездку на Стамбульскі саміт АБСЕ 18—19 лістапада, а таксама правядзенне ў Мінску 12—13 лістапада Міжнароднай канферэнцыі па правах чалавека.

**Алег САКАЛОЎ.**

## Памяці дырыжора Віталя Катаева прысвячалася...

Канцэрт Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі на 26-м Міжнародным фестывалі мастацтваў “Беларуская музычная восень” быў прысвечаны памяці нядаўна памерлага дырыжора, заслужанага артыста Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў Расіі Віталя Катаева, які пакінуў вялікі след у беларускім музычным жыцці. З беларускім камерным аркестрам яго звязвала доўгая творчая дружба; ён дырыжыраваў аркестрам і ў Мінску, і за мяжой. В.Катаеў адкрыў для мінчан творы такіх вядомых кампазітараў, як Альфрэд Шнітке, Ігар Стравінскі, Арцюр Онегер, Бенджамін Брытэн і іншых.

На канцэрце гучалі 13-я і 14-я сімфоніі Шастаковіча — апошняй марыў прадырыжыраваць Віталь Катаеў, які не дажыў да гэтага канцэрта. У якасці дырыжора і піяніста выступаў вучань В.Катаева, лаўрэат Усерасійскага і міжнародных конкурсаў Станіслаў Дзячэнка.

**Вера КРОЗ.**

Конкурс

## “Летуценнікі тысячагоддзя”

У Беларусі стартаваў конкурс “Millennium Dreamers” (“Летуценнікі тысячагоддзя”), праводзімы кампаніямі МакДональдс і Дысней. 2000 пераможцаў праграмы Millennium Dreamers з розных краін свету адправяцца на курорт “Свет Дыснея” у Арланда (штат Фларыда, ЗША) на дзіцячы форум у траўні 2000 года.

Як паведамілі БелаПАН у замежным прадпрыемстве “Рэстараны МакДональдс”, ад Беларусі будуць накіраваныя два дэпутаты. З умовамі конкурсу “Летуценнікі тысячагоддзя” кожны жадаючы можа азнаёміцца ў любым рэстаране МакДональдс у Мінску.

Вынікі конкурсу будуць падводзіцца конкурснай камісіяй, у якую, як абяцае прадпрыемства “Рэстараны МакДональдс”, “увойдуць паважаныя і аўтарытэтныя людзі”.

Вынікі конкурсу будуць падводзіцца ў двух узроставых катэгорыях: ад 8 да 11 гадоў і ад 12 да 15 гадоў. У кожнай з узроставых катэгорый журы вызначыць па адным пераможцы. Пры гэтым, згодна з умовамі, пераможцы не могуць з’яўляцца членамі адной сям’і.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

Канфлікт

## Як хацеў, ды не здолеў ажаніцца з акадэмічнай сацыялогіяй адзін наменклатуршчык

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Верагодна іншае. Сп. Данілаў здолеў уцерціся ў давер прэзідэнту Акадэміі навук, пераканаць апошняга ў тым, што ён (Данілаў) — самы вядомы, самы таленавіты сацыёлаг і лепш за ўсіх справіцца з абавязкамі дырэктара Інстытута сацыялогіі.

У асяроддзі беларускіх сацыёлагаў сп. Данілава, безумоўна, ведаюць, але хутчэй як фігуру адыёзную, прафесіянальна павярхоўную, з непрыхаванымі кар’ерысцкімі памкненнямі. Таму для людзей недасведчаных самы час зрабіць бібліяграфічную даведку. Данілаў Аляксандр Мікалаевіч нарадзіўся ў 1955 годзе. Скончыў Віцебскі ветэрынарны інстытут — заавэтэрынарны факультэт (1975—1980 гг.) і атрымаў спецыяльнасць заінжынера. З 1978 года і да прыпынення дзейнасці камсамола Беларусі бесперапынна знаходзіўся на камсамольскай рабоце. З 1994 года працуе ў Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі. За перыяд з 1990 года ён атрымаў дыпломы кандыдата і доктара сацыялагічных навук, а таксама акадэмічнае званне члена-карэспандэнта НАН Беларусі па спецыяльнасці “сацыялогія”.

Лёгка заўважыць, што найбольш дзіўнае ў прыведзенай біяграфіі — гэта тая метамарфоза, у выніку якой *зорка заінжынерыі ператварылася ў зорку сацыялогіі.* Аднак для супрацоўнікаў Інстытута сацыялогіі, дзе пачынаў свой шлях у навуцы камсамольскі функцыянер Данілаў, ніякага цуда ў гэтым не было. На іх вачах адбывалася станаўленне ўсяго толькі маладога кар’ерыста, які з дапамогай акадэмічных званняў разлічваў дасягнуць службовых вышынь. Абараніўшы кандыдацкую, а потым доктарскую дысертацыі, сп. Данілаў не стаў марудзіць з прасоўваннем па акадэмічнай лесвіцы. Восенню мінулага года ён абіраецца членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі. З дапамогай апаратных гульняў ён здолеў абысці такіх вядомых прафесіяналаў у галіне сацыялогіі, як С.А.Шавель, Г.М.Сакалова, І.І.Антановіч і іншых. Апошні, кажуць, не выцерпеў такой знявагі ад выскачкі і злёг у шпіталь.

Былому міністру замежных спраў сапраўды было ад чаго зняважыцца. Усе, хто мае дачыненне да сацыялогіі, гарталі кніжкі сп.Данілава. Усе маглі пераканацца ў тым, што гэтыя працы ў лепшым выпадку падпадаюць пад вызначэнне дрэнна зробленай кампіляцыі. Доўгія, на старонку і болей цытаты з работ вядомых сацыялагічных аўтараў нязграбна прыгнаныя адна да адной, — вось, можна сказаць, і ўсё. Аўтарскія рэмаркі да іх часта пакідаюць уражанне, што аўтар не разумее, пра што піша.

Не дзіўна, што калектыў Інстытута сацыялогіі ў большасці сваёй успрыняў вестку аб новым дырэктары таксама як абразу. Як ні пнуліся “шасцёркі” кандыдата, навукоўцы не падаліся на запалохванні, угаворы, абяцанні салодкага жыцця з новым кіраўніком і дружна выказаліся супраць абрання сп. Данілава на пасаду дырэктара Інстытута сацыялогіі. Вынікі тайнага галасавання (“за” — 13, “супраць” — 28) сведчаць аб тым, што ў Акадэміі навук, прынамсі, у сферы сацыялагічных даследаванняў, працуюць адказныя прафесіяналы, каторым далёка не ўсё роўна, якія людзі, з якім інтэлектуальным патэнцыялам будуць узначальваць акадэмічную навуку. І гэта дае падставу для аптымізму. Як-ніяк навука, сфера інтэлектуальнай вытворчасці — галоўны рэсурс Беларусі.

Што будзе далей, ці адступіцца сп. Данілаў ад намеру залезці ў крэсла дырэктара Інстытута сацыялогіі? Існуюць розныя меркаванні. Адны лічаць, што пасля такой паразы былы “вертыкальшчык” павінен з’ехаць у родны Віцебск і зноў заняцца заветэрынарыяй. Узгадваюць, што ў свой час ён вельмі паспяхова абараніў дыплом па праблемах штучнага асемянення буйной рагатай жывёлы. Але гэта хутчэй падобна на жарт.

Іншыя гавораць, што сп. Данілаў будзе дамагацца альбо правядзення другога тура выбараў (каб паспрабаваць усё ж такі “згвалціць” калектыў Інстытута), альбо загаду прзідэнта Акадэміі навук аб прызначэнні яго выконваючым абавязкі дырэктара Інстытута сацыялогіі. Каб пачаць “выкручваць рукі” падначаленым навукоўцам і ў рэшце рэшт дамагчыся абрання. Але гэта ўжо за межамі закона, акадэмічных нормаў і маралі. Сп. Вайтовіч ніколі не грэбаваў імі. Таму няма падстаў сумнявацца ў тым, что і ў даным выпадку ён не запляміць сваю рэпутацыю рыцара навукі.

А былому “вертыкальшчыку” знойдзецца ўтульнае месца. У нашай краіне дзяржаўная служба вялікая...

**Дзям’ян СТРЫГУН, сацыёлаг.**

Дажыліся...

## Гарэлка? Не больш за дзве бутэлькі ў адны рукі!..

У сувязі з дэфіцытам гарэлачнай прадукцыі ў некаторых магазінах Магілёва ўведзены нормы продажу гарэлкі аднаму пакупніку. Цяпер у залежнасці ад гандлёвай кропкі пакупнік можа набыць ад дзвюх да пяці бутэлек 40-градуснага напоя.

Сёння лічыцца вялікай удачай, калі наогул ўдаецца адшукаць гарэлку ў гандлёвай сетцы. Да гэтага распараджэння нормы продажу гарэлкі складалі 10 бутэлек у адны рукі. Сярод прычын узнікнення дэфіцыту спецыялісты адзначаюць адсутнасць дастатковай колькасці зерня для вытворчасці спірту і, адпаведна, гарэлкі.

**Канстанцін УВАРАЎ, БелаПАН.**

Шчыра

## Я асабіста і мільёны свядомых беларусаў будзем удзячны яму за гэта да скону жыцця



Падчас падпісання Віскулёўскага пагаднення.

Дзень добры, паважаная рэдакцыя! Я даўні чытач вашай газеты. Гэты мой ліст пра грамадзяніна, палітыка і патрыёта нашай Радзімы Станіслава Шушкевіча. Спадзяюся, што вы яго надрукуеце.

Надакучыла мне слухаць па радыё, як штатныя прамоўцы ільюць бруд на лепшых людзей краіны. Прыйдзеш з работы, сядзеш на кухні, каб папіць гарбаты ды адпачыць, а з дынаміка такая брыдота ды лухта нясецца, што хоць вушы затыкай. Асабліва багата дастаецца Станіславу Шушкевічу. Вось я і хачу падтрымаць яго маральна праз газету, каб ён не вельмі перажываў, слухаючы людзей дрэнных і несумленных.

Стагоддзямі беларусы жадалі аднавіць сваю дзяржаўную самастойнасць, скарыстаўшы тыя шанцы, што раз-пораз давала нашаму народу гісторыя. Касцюшка, Каліноўскі, Гартны, браты Ластоўскія, браты Лёсікі і многія іншыя патрыёты Беларусі змагаліся за яе незалежнасць. Але толькі напрыканцы XX стагоддзя палітычныя абставіны склаліся так добра, што нам удалося здзейсніць векавую мару. А зрабіў гэта свядомы беларус, старшыня Вярхоўнага Савета краіны, прафесар Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч, які паставіў свой подпіс пад Белавежскімі дакументамі. Ён апынуўся ў патрэбным месцы ў патрэбны час і не збаяўся ўзяць на сябе вялізную адказнасць. Я асабіста і мільёны свядомых беларусаў будзем удзячны яму за гэта да скону жыцця. Будуць удзячны яму за гэта і нашы нашчадкі, якія даведаюцца пра сённяшняе жыццё з падручнікаў па гісторыі. Уся брыдота і хлусня тады ападзе, і застануцца толькі імёны сапраўдных патрыётаў, сярод якіх і імя Станіслава Шушкевіча.

На жаль, сёння Лукашэнка і яго памагатыя руйнуюць беларускую дзяржаўнасць, развальваюць нашу эканоміку і культуру, ганьбяць маю краіну на ўвесь свет. Каб прыхаваць сваю няздольнасць да стваральнай працы, яны хлусяць з экранаў тэлевізараў і радыёпрыёмнікаў, апаганьваюць усё шчырае і светлае, што ёсць у нашага народа. Я проста фізічна адчуваю нейкую чорную энергію, якая ўваходзіць у хату разам з праграмамі БТ і радыё. Я памятаю, што ўсё было інакш, калі выступаў Шушкевіч. Ад яго шла станоўчая, светлая энергія. Яго хацелася слухаць, бо ён казаў разумныя і праўдзівыя словы.

Хачу пажадаць Станіславу Станіслававічу добрага здароўя і натхнення, плённай працы на карысць Беларусі.

**Міхась АКУЛЕНКА, рабочы.**

Гомель.

Стоп-кадр

Отстояв в очереди, минчане складывают в свои сумки куриные яйца, купленные с автомашины возле Комаровского рынка.

**Фото IREX/ProMedia.**

